ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

**№64 (1877)**
Субота, 10 красавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

*Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +5...+7, дождж, уначы — +3...+5, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +4...+6, дождж, уначы — +3...+5, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +5...+7, дождж, уначы — +3...+5, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +5...+7, уначы — +3...+5, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +5...+7, уначы — +4...+6, на працягу сутак — дождж; у Магілёве ўдзень — +4...+6, уначы — +4...+6, на працягу сутак — дождж.

*www.meteo.by*



## Няхай Вялікдзень падорыць Вам не толькі чырвонае яйка, але і душэўную радасць, здароўе і далейшыя шчаслівыя дні!



## Вялікдзень

*Вялікдзень —*
*А па-сельскаму — Вялічка!*
*Пасля свянцонай солі і куцці*
*Хутчэй з біклагі выбівай затычку*
*і яйкі з неба сёмага*
*Каці!*

*Ад чаду свечак*
*Галава збалела*
*Ў святой царквы — з крыжамі на усход,*
*Хоць і святочна на гары бялее*
*Яна, бы снегу белага*
*Сумёт.*

*Круглеюць яйкі*
*Ў фарбе, нібы з бронзы, —*
*Пад буркатанне думных галубоў*
*Спрабуюць дзеці недзе ля бярозы*
*Моц гартаваных іх крутых*
*Ілбоў.*

*Жартуй,*
*Альбо на цэлы свет галёкай, —*
*Вялікдзень коціць яйкі са сталоў!*
*У гэтага вось лоб - боегалоўкай,*
*А ў тога — перуноваю*
*Стралой!*

*Хітруюць,*
*Цягнуць час яны нядарма —*
*Рызыкаваць не хочацца, відно.*
*І кожнае стараецца ударыць*
*У тое месца, дзе слабей*
*Яно.*

*Баднуцца!*
*І не тое што каб скрыгат,*
*А храп ідзе вышэй сарвігалоў,*
*Нібыта крыга крохкая аб крыгу*
*Знячэўку наляцела*
*Ў крыгалом.*

*Да белізны*
*Акоранае яйка.*
*Шкарлупкай хмарка ссунецца за лес.*
*І нават крук на дрэве каркне ярка:*
*— Хрыстос васкрэс? Ваісціну*
*Васкрэс!..*

**Васіль МАКАРЭВІЧ.**

**ВІНШУЕМ!**

## Анатоль Міхайлаў атрымаў медаль Гётэ

Рэктар Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта **Анатоль Міхайлаў** узнагароджаны нямецкім медалём Гётэ.

Разам з высокай узнагародай Анатоль Арсеньевіч атрымаў віншавальны ліст ад прэзідэнта Федэратыўнай Рэспублікі Германія **Ёханеса Рау.** *"Стварыўшы Еўрапейскі гуманітарны універсітэт і непасрэдна кіруючы ім, — піша нямецкі кіраўнік беларускаму прафесару, — Вы адкрываеце вочы людзям Германіі і Беларусі на тое, што адбываецца ў нашых краінах".*

Прэзідэнт ФРГ, звяртаючыся да рэктара ЕГУ, выказвае спадзяванне, што атрыманы медаль Гётэ будзе разглядацца ім "як стымул для працягу сваёй важнай місіі ў Беларусі".



**Наталля ГАК.**

## Велікоднае пасланне

### Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі

*"Смерцю Тваёю, Хрысце, ад страсцей мы вызваліліся, і ўваскрасеннем Тваім ад тлення збавіліся, Госпадзі, слава Табе"*

*(Сціхіра, глас 1)*

Узлюбленыя архіпастыры, пастыры, манахі і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!

Пасха Гасподняя — гэта ўрачыстасць з урачыстасцяў Святой Царквы! Сёння яна адначасова святкуецца ўсім хрысціянскім светам, і гэта сугучна псалму Давіда: *"Ад усходу сонца да заходу праслаўляецца імя Гасподняе!"* (Пс. 112: 3). З усіх канцоў зямлі ўзносіцца да неба і перадаецца ад сэрца да сэрца пераможная песня:

**"Хрыстос уваскрэс з мёртвых, смерцю смерць зваяваў,**
**і тым, што ў магілах, жыццё дараваў!"**

Захапляючыся веліччу Светлага Хрыстовага Уваскрасення, прападобны Ісідар Пелусіот, сябра і вучань свяціцеля Іаана Залатавуста, усклікае: *"Прыгажосць Твая, Уладыка Хрысце, невымоўная, веліч невыказная, і слава пераўзыходзіць розум і слова".*

Здавалася б, наколькі неспасцігальны вышэйшы сэнс Пасхі Гасподняй для нас, абцяжараных мноствам саграшэнняў, стомленых мітуснёй і ахопленых смуткам!..

Але гэта не так, дарагія браты і сёстры! Для таго і прыйшоў у свет Сын Божы, каб знішчыць безнадзейнасць і адчай роду чалавечага!

Кожным словам і дзеяннем Свайго дабравесця Хрыстос Збавіцель узносіць да неба годнасць чалавека, які носіць у сабе вобраз і падабенства Божае. Крыжовай смерцю і трохдзённым уваскрасеннем Гасподзь наш Ісус Хрыстос выводзіць нас з *"цемры і цені смяротнай"* (Іаў 10: 21) і адкрывае перад чалавекам дзверы дома Айца Нябеснага.

Глыбокім сэнсам напоўнены старажытныя іконы Уваскрасення Хрыстовага, на якіх паказана сашэсце Збавіцеля ў пекла. Пры гэтым Уваскрэслы Сын Божы трымае нашага праайца Адама за руку і выводзіць яго з цемры, а разам з ім — і ўсіх нашчадкаў Адама і Евы, якія імкнуцца за Хрыстом. Вароты пекла скрушаны, вярыгі ўжо не могуць утрымаць сваіх палонных, бо, паводле слоў свяціцеля Іаана Залатавуста: *"Уваскрэс Хрыстос, і жыццё жыве; уваскрэс Хрыстос, і ніводнага мёртвага няма ў магіле!".*

Зямное жыццё чалавека багасловы нярэдка параўноўваюць са знаходжаннем птушаняці ў яйку. Пакуль чалавек жыве на зямлі, ён замкнёны ў цвёрдую абалонку цялеснай шкарлупіны. Развіваючыся, як і птушаня, ён робіцца мацнейшым духам і больш загартаваным целам, каб стаць гатовым да нябеснага палёту і навучыцца адкрытымі вачыма глядзець на Сонца Праўды.

І таму не да смерці прыводзіць разбурэнне шкарлупіны цялеснага быцця, а да вызвалення для новага жыцця ў паўнаце Божай любові. Кожны раз мы згадваем пра гэта, калі вітаем адзін аднаго чырвоным яйкам і ўсклікаем са светлай пасхальнай радасцю: **Хрыстос уваскрэс! Сапраўды ўваскрэс!**

Узлюбленыя браты і сёстры! Сёлетні год знамянальны для Беларусі 20-й гадавінай усталявання свята Сабора Беларускіх святых. За пяць гадоў да гістарычных урачыстасцяў 1000-годдзя Хрышчэння Русі, яшчэ ў 1984 годзе па благаславенні Свяцейшага Патрыярха Пімена было ўсталявана агульнацаркоўнае святкаванне памяці святых, якія здзейснілі свой подзвіг на зямлі Беларусі.

На працягу двух дзесяцігоддзяў колькасць кананізаваных беларускіх падзвіжнікаў узрасла ад чатырнаццаці, змешчаных на першым спіску іконы Сабора, да пяцідзесяці пяці, уключаючы вызнаўцаў і навамучанікаў Мінскай епархіі. Сапраўды, *"ушанаваў Гасподзь Беларускі край святымі, што добра дагадзілі Яму",* — як спяваецца ў трапары Сабору святых апекуноў нашай зямной Айчыны. А сярод іх мы светла ўшаноўваем і тых, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны душу сваю паклалі за паству, даверанyю ім Богам, набліжаючы выратаванне ад ворага сваёй працай, малітвай і веравызнаўчым подзвігам.

Сёлета мы адзначаем 60-годдзе вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі і набліжаемся да ўсенароднага святкавання юбілею Вялікай Перамогі 1945 года! Бо тады Дзень Перамогі супаў з Пасхай Гасподняй, напаўняючы змучаныя сэрцы бацькоў і дзядоў нашых асаблівай, ні з чым не



параўнальнай радасцю Пераможнага Уваскрасення!

Магчыма, якраз у тыя дні ў душах людзей ваеннага і наступных пакаленняў адрадзілася разуменне таго, што ні Пасхальную, ні пераможную радасць немагчыма перажыць у яе паўнаце, калі ў сэрцы працягваюць караніцца крыўды і жорсткасць, недавер і крывадушнасць, сваявольнасць і злапамятнасць. Без захавання ў міры свайго "ўнутранага чалавека" нельга выглядаць радасным, бо ў дні святкавання Светлага Хрыстовага Уваскрасення ўсялякая душэўная няшчырасць робіцца відавочнай.

Вось чаму так непарыўна звязаны Раждзэственскае і Пасхальнае славаслоўі! Толькі ўзнёсшы *"славу ў вышніх Богу",* сцвердзіўшы *"на зямлі мір"* і вызнаўшы, што сапраўды *"ў людзях добрая воля",* мы зможам усёй сваёй істотай прыняць дабравесце Апостальскае і абвесціць бліжнім і дальнім пра тое, што **Хрыстос сапраўды ўваскрэс!**

У пропаведзі прападобнага айца нашага Серафіма Сароўскага паўната Раждаства і Уваскрасення Хрыстовага выказвалася простымі, вядомымі кожнаму праваслаўнаму хрысціяніну словамі. *"Дасягай духу мірнага, і тысячы будуць збаўлены вакол цябе",* — вучыў мудры старац. А надзея на збаўленне гучала ў паўсядзённым вітанні Сароўскага цудатворца, з якім ён сустракаў кожнага чалавека: **"Радасць мая, Хрыстос уваскрэс!".**

У мінулым годзе хрысціянскі свет адзначаў 100-годдзе праслаўлення прападобнага Серафіма. І цяпер мы з асаблівай радасцю рыхтуемся да працягу ўрачыстасцяў, бо ў канцы лета на Курскай і Ніжагародскай землях адбудуцца падзеі святкавання 250-годдзя з дня нараджэння Сароўскага падзвіжніка. Так наша духоўная гісторыя зноў дае нам благаславёную нагоду ўлетку спяваць Пасху!

Будзьма ж і мы, узлюбленыя браты і сёстры, узаемна годнымі адзін перад адным і перад абліччам Божым таго вялікага дару радасці ў Хрысце Уваскрэслым, якая ляжыць у аснове свету, дае пачатак нашай любові да Бога і да чалавека і служыць непахіснай апораю на жыццёвым шляху да абіцеляў Айца Нябеснага! **Хрыстос уваскрэс! Сапраўды ўваскрэс!**

**Філарэт,**
**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі,**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

**Пасха Хрыстова, 2004 г., Мінск.**

## Пастырскі ліст на Вялікдзень 2004 года

*"Езус кажа яму: ты паверыў таму, што ўбачыў Мяне; шчаслівы той, хто не бачыў, а паверыў".*

*(гл. Ян 20, 29)*

"Забралі Пана з грабніцы... не разумелі яшчэ Пісання... словы гэтыя здаліся ім пустаслоўем", — вось некалькі сказаў, узятых з апісання аб'яўлення Хрыста пасля Уваскрэсення. Яны выразна адлюстроўваюць настрой, які панаваў сярод вучняў, раскрываюць думкі самых блізкіх Хрысту людзей. Памёр! Гэта ўжо канец. Ці маглі яны думаць інакш: так заканчваецца жыццё ўсіх людзей, нават найбольш паяднаных з Богам — такі закон чалавечага жыцця, такая логіка мыслення чалавека.

Аднак у адных і тых жа евангельскіх апавяданнях ёсць і іншы настрой: "Убачыў і паверыў! Тады яны ўзгадалі словы Ягоныя і, вярнуўшыся ад грабніцы, абвясцілі ўсё гэта адзінаццаці...". Ёсць настрой абуджэння веры ў сэрцах людзей. Яны перамаглі страх пасля драматычных падзей пятніцы, сутыкнуліся з пустою грабніцаю, перажылі сустрэчу з Настаўнікам, які ім аб'явіўся, нарэшце адступіліся ад прынцыпаў чалавечай логікі, пайшлі за Божаю праўдаю — Ён жыве! — і спасылаліся пры гэтым на асабістае сведчанне сустрэчы з Панам. Мабыць, самым яскравым з'яўляецца сведчанне нявернага Тамаша.

Падчас аб'яўлення Уваскрэслага Езуса ўвечары першага дня тыдня ў доме, дзе знаходзіліся вучні, не было апостала Тамаша. Калі вучні расказвалі яму, што бачылі Езуса, ён сказаў: "Пакуль не ўбачу на руках у Яго ранаў ад цвікоў, і не ўкладу пальца майго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі маёй у бок Ягоны, не паверу". А праз восем дзён, калі вучні Яго зноў былі ў доме і Тамаш з імі, Езус прыйшоў пры замкнутых дзвярах, стаў пасярэдзіне і прамовіў: "Спакой вам!". А потым сказаў Тамашу: "Дай сюды палец твой і паглядзі рукі Мае; дай руку тваю і ўкладзі ў бок Мой; і не будзь няверуючым, але веруючым". Тамаш адказаў Яму: "Пан мой і Бог мой". Езус сказаў: "Ты паверыў таму, што ўбачыў Мяне; шчаслівы той, хто не бачыў, а паверыў" (гл. Ян 20, 25—29).

О як жа гэтая нявернасць Тамаша найлепш засведчыла Уваскрэсенне Езуса Хрыста! Спачатку апосталы з вялікай цяжкасцю прымалі гэту неверагодную праўду, пакуль самі не сталі сведкамі Уваскрэсення Езуса. Адзінымі аргументамі для іх былі сведчанні Святога Пісання, пустая грабніца і ўзрушаныя словы жанчын, якім першым аб'явіўся Хрыстус.

Нядзіўна, што Тамаш не паверыў апосталам, якія казалі яму, што бачылі Пана, і адрэагаваў катэгарычна і адназначна: "Пакуль не ўбачу на руках у Яго ранаў ад цвікоў і не ўкладу рукі маёй у бок Ягоны, не паверу". Тамаш хоча ўпэўніцца ў рэальнасці і праўдзівасці слоў апосталаў. І вось Хрыстус не толькі аб'яўляецца Тамашу, каб надаць гэтаму сведчанню асаблівае значэнне, але дазваляе яму дакрануцца да ранаў на Яго руках і ў баку. Усё ж такі з усіх апосталаў і вучняў адзінадзінюткі Тамаш быў вылучаны такім чынам. (...)

Каб лепш зразумець сустрэчу Тамаша з Хрыстом праз восем дзён пасля Яго Уваскрэсення, трэба таксама ўзяць пад увагу ранейшае здарэнне, запісанае тым жа евангелістам, у якім прымае ўдзел Тамаш. Апостал становіцца сведкам пустой грабніцы, перажывае цуд уваскрашэння памерлага, бачыць, як Лазар устае з магілы. Пасля Вялікай пятніцы і Вялікай нядзелі Тамаш даведваецца, што грабніца, у якой ляжаў Езус, пустая, а апосталы гавораць яму, што "бачылі Пана". Тамаш катэгарычна адмаўляецца верыць у Змёртвыхпаўстанне Езуса, і толькі пасля таго як убачыць раны на руках і ў баку Уваскрослага, ранейшы няверуючы вымавіць словы веры і праслаўлення: "Пан мой і Бог мой!".

Пазней, згодна з традыцыяй, Тамаш накіруецца на Усход. Ён стане прапаведаваць над Еўфратам, дойдзе да Індыі і там будзе заколаты дзідамі. Ён памірае як верны сведка Езуса Хрыста. Разам з іншымі апосталамі і вучнямі Тамаш спадарожні-



чаў Езусу падчас Яго публічнай дзейнасці, слухаў Яго Добрую Навіну, быў сведкам розных цудаў, якія здзейсніў Езус, сам па даручэнні Настаўніка прымаў актыўны ўдзел у абвяшчэнні Божага валадарства. Але толькі пасля таго, калі апостал сустрэўся з Уваскрэслым Езусам, убачыў сляды мукі і смерці на крыжы, адбылося яго поўнае вызнанне веры і поўнае прысвячэнне сябе апостальскай місіі.

У свеце ёсць шмат людзей, падобных да Тамаша ў перыяд яго нявер'я. Многія хацелі б мець пацвярджэнне веры ў Бога канкрэтнымі цудоўнымі знакамі, якія сведчылі б пра Божае існаванне і дзейнасць, аднак сёння праблема веры зводзіцца да таго, што сказаў Езус, адказваючы на вызнанне Тамаша "Пан мой і Бог мой": "Шчаслівы той, хто не бачыў, а паверыў". Цяпер наша вера чэрпае сведчанні ад тых, хто слухаў, бачыў, дакранаўся да Езуса і перадаў наступным пакаленням.

Зрэшты, не чалавек робіць ласку і дабро Богу тым, што верыць. Гэта вера з'яўляецца незвычайнаю Божаю ласкаю для чалавека, таму што Бог у сваёй дабрыні паказвае Сябе людзям у постаці свайго ўкрыжаванага і ўваскрэслага Сына. Нам патрэбна менавіта тая вера, якая абапіраецца на праўду смерці і ўваскрэсення Езуса Хрыста. Такая вера для нас — благаславенне, ласка, "дарога, праўда і жыццё", і яна вядзе нас па зямным жыцці да лучнасці з Богам у вечнасці.

Схіляючы галовы і кленчачы перад Уваскрэслым Хрыстом Панам, просім Яго пакорна, каб мы, умацаваныя сведчаннем святога апостала Тамаша праз прызнанне чалавечнасці і Боства Езуса ("Пан мой і Бог мой"), кіраваліся ў сваім жыцці і паводзінах запаведдзю Езуса: "Шчаслівы той, хто не бачыў, а паверыў" (гл. Ян 20, 29).

І гэта мае, шаноўныя дыяцэзіяне, велікодныя пажаданні, якія падтрымліваю пастырскім благаславеннем. Амэн.

**Кардынал Казімір СВЁНТЭК,**
**Арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,**
**Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі.**

**ПОЗИЦИЯ**

## Без внесения изменений в Избирательный кодекс на выборы можно не идти

В статье "Стратэгія перамогі" (№ за 24 марта) Е.Лугин высказал столько противоречивых мнений, что трудно оценить публикацию однозначно. С одной стороны, он утверждает, что административный ресурс у власти такой, что она может свести любые усилия избирателей к нулю. С другой — описывает технологию "раскрутки" демократического кандидата (будем говорить о выборах президента).

Я не хочу давать оценки такой "Стратэгіі", чтобы не обидеть Лугина. Может быть, он не знает всех приемов режима по устранению претендентов и по недопущению их на "дистанцию", а также по фальсификации результатов. Я лучше расскажу, как мы, группка пенсионеров с высшим образованием, пытались избрать одного достойного человека в местные советы.

Наш участок — это практически один девятиэтажный дом, в котором 144 квартиры. Претендентом от власти была главный бухгалтер. Ей не надо было встречаться с избирателями, не нужно было собирать подписи. Мы же вместо 20 подписей собрали 100, обошли каждую квартиру, рассказали о кандидате, его автобиографии. Особый упор делали на то, что пенсионер, а значит, не зависит от администрации, у него много свободного времени, а потому будет когда заниматься вопросами избирателей.

После сбора подписей кандидат сам прошел по квартирам, и подавляющее большинство людей обещали голосовать только за него. Замечу, при разговорах с избирателями мы обязательно спрашивали, кто еще на участке является кандидатом в депутаты, кроме нашего выдвиженца. Только около одного процента отвечали, что знают кто, а остальные — не знают.

Казалось бы, сокрушительная победа будет за нашим кандидатом. Но... При подсчете голосов оказалось, что за нашего кандидата проголосовало только 30 человек, а за его соперника 156. Если бы мы не занимались этой "стратэгіяй", то можно было бы подумать, что результаты соответствуют действительности. Но в данном случае я с этим никак не могу согласиться.

Теперь я не верю никаким стратегиям. Если власть задумает провести в депутаты своего выдвиженца, она любым образом этого добьется. Чтобы выборы были путными, нужно прежде всего изменить Избирательный кодекс.

Если же этого не произойдет, то единственно реальная позиция — это предложение Зенона Позьняка: бойкот выборов. Я учитываю, что 25% (примерно) поддерживают Лукашенко, около 20% будут загнаны принудительно: это военнослужащие, работники системы МВД, номенклатура, студенты. В любом случае набрать 50% будет проблематично. Но и в этом случае у администрации есть такой прием, как фальсификация списков избирателей, т.е. тех избирателей, которые не пришли на избирательные участки, исключают из списков и таким образом подгоняют общее количество пришедших на избирательные участки до 50,1% и выборы будут считать состоявшимися, а уж "элегантную" победу обеспечат те, кому будет поручено.

Повторяю: на сегодняшний день важнейшей задачей является не выдвижение единого кандидата, хотя это тоже важно, а изменение Избирательного кодекса. Если Избирательный кодекс не изменить, никакие стратегии не сработают.

**Василий ПАТРЕЕВ,**
**пенсионер.**

*Дзержинский район.*

**НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ**

## Гнюснасць

8 красавіка па Першым Нацыянальным тэлеканале ў адыёзна-прапагандысцкай перадачы Юрыя Пракопава з вуснаў дэкана філалагічнага факультэта Магілёўскага педуніверсітэта Аляксея Лаўшука адкрыта, на ўсю краіну прагучала: *"Ён* (Зянон Пазьняк. — **Рэд.**) *бліжэй стаў да фашыстаў, чым да патрыётаў".*

Хто не ведае: яшчэ з савецкай пары ўладная камуністычная наменклатура шалёна ўзненавідзела лідэра дэмакратычнага руху "Беларускі Народны Фронт". Узненавідзела менавіта за тое, што гэты мужны, дальнабачны, аддадзены Бацькаўшчыне палітык кладзе ўсе сілы без астатку на алтар свабоды і незалежнасці роднай Беларусі, шчаснага лёсу свайго народа.

Якім толькі брудам не палівалі, якой злой хлусні не прыдумлялі на адрас Зянона Станіслававіча апалагеты таго струхлелага ладу, што ў хуткім часе рухнуў. Але камякі таго бруду, той хлусні заціснулі ў кулаках і шпурляюць у Патрыёта і Грамадзяніна, які і зараз, у выгнанні, нястомна змагаецца дзеля светлага лёсу сваёй зямлі, прадаўжальнікі былой сістэмы і антынацыянальнай, антыдэмакратычнай палітыкі. Без сораму і одуму яны могуць дазволіць сабе гнюснае *"фашыст"* пра чалавека, які нарадзіўся ў 1944 годзе, ужо пасля таго, як загінуў на фронце ў бітве з фашызмам ягоны бацька і ўсе мужчыны іх працавітай, паважанай сялянскай сям'і. Пра чалавека, які прысвяціў сябе непахіснай барацьбе з сістэмай зла, гвалту, насілля, які горача марыць аб адным: каб сонца Волі і Святла азарыла родны край. Які жыве бязмернай любоўю да Радзімы і ніколі ні ў чым сябе не запляміў.

Самае сумнае, самае гнюснае, што зараз мы бачым і чуем: сярод штатных паклёпнікаў-рупараў афіцыйнай прапаганды гучаць фальшывыя падгалоскі некаторых з тых, хто называе сябе інтэлігентам. Бо гэтае ёмістае слова звязана не толькі з інтэлектам, адукаванасцю асобы, а і яе — бадай, гэта перш за ўсё — высокародствам, маральнасцю, пачуццём уласнага гонару і адказнасці за лёс Айчыны.

Як жа нізка трэба ўпасці, как не саромецца белае назваць чорным, адданага патрыёта — фашыстам? Якіх жа "патрыётаў" выхаваюць такія гора-настаўнікі? Як можна абражаць чалавека, словы і справы якога пацвярджаюць само жыццё, час і падзеі кожнага дня? Усё, што гаварыў і гаворыць Зянон Станіслававіч Пазьняк, — наконт нечалавечнага былога камуністычнага ладу, які, на жаль, і дагэтуль не адпускае ўжо незалежную Беларусь, наконт згубнасці бяздумных аб'яднальніцкіх гульняў з імперскай Расіяй, наконт антынароднага сённяшняга беларускага рэжыму, — гэта відавочная, трывожная і драматычная рэчаіснасць.

...Не хацелася б рабіць аналогій, але... Зараз, у гэтыя дні, перад вялікім святам Уваскрэсення Хрыстова, міжволі згадваецца, паводле якой дзічэзнахлуслівай, злачыннай прыдумкі быў асуджаны і ўкрыжаваны Ісус Хрыстос. Але Яго несмяротнасць, Яго Вечнае жыццё ў сэрцах мноства людскіх пакаленняў — гэта нястрымнае памкненне і вера ў перамогу Дабра над злом, Праўды над крыўдай, Духоўнасці — над мізэрнасцю дробных душ.

Прыйдзе час, і суд Гасподні дасць па заслугах і праведнікам, і іх ганіцелям.

З Вялікаднем, дарагія землякі! З Вялікаднем, шаноўны Зянон Станіслававіч! Спадзяемся на сустрэчу на роднай — вольнай і прыгожай — зямлі незалежнай дэмакратычнай Беларусі, што годна ўвойдзе ў сям'ю цывілізаваных народаў свету!

**Святлана ВЯРБІЦКАЯ,**
**жыхарка г.Мінска.**

